*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 12 (224)

22 сакавіка 1995 г.

Кошт — 100 рублёў

*77 ГАДОЎ НАЗАД 25 САКАВІКА 1918 ГОДА была прынята Трэцяя Устаноўчая грамата і абвешчана незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Рэдакцыя «Нашага слова» віншуе ўсіх змагароў за Адраджэнне з Днём Волі.*

**БЕЛАРУСКАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ З ДАЛЁКАЙ АЎСТРАЛІІ Ў ДЗЕНЬ 25 САКАВІКА.**



# ЗНОЎ ЗНЕВАЖАЮЦЬ БЕЛАРУСАЎ

## ЗАЯВА

### Грамадскага Каардынацыйнага Камітэта абароны беларускай мовы

2 лютага 1995 г. Прэзідэнт Лукашэнка ў чарговы раз заявіў аб сваім намеры ініцыяваць усенародны рэферэндум пра дзяржаўную мову і сімволіку. Гэтая ініцыятыва на фоне катастрафічнага стану эканомікі, шалёнага росту цэнаў і неймавернага збяднення нашага народа выклікае ў людзей здзіўленне і законнае абурэнне. Людзі пытаюцца, чаму Прэзідэнт дагэтуль не запусціў прадпрыемствы, чаму жыццё пагаршаецца дзень пры дні і не відаць ніякага прасвету? Чаму ён не кансалідуе грамадства, як абяцаў, а, наадварот, расколвае яго? Няўжо ў Лукашэнкі няма большага клопату, як змаганне з дзяржаўнай мовай і гістарычнай сімволікай?

Паколькі абразлівыя выказванні пра нашую мову з вуснаў Прэзідэнта невыпадковыя, яны неаднаразова гучалі і раней, мы вымушаны звярнуцца да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь з просьбаю разгледзець пытанне аб адказнасці сп.Лукашэнкі за знявагу беларускай мовы ў адпаведнасці з заканадаўствам.

16 лютага 1995 г.
г.Менск.

**Меркаванні**

## Дзеля перамогі на выбарах у Вярхоўны Савет

Гледзячы на ўсё, што робіцца ў нашым грамадстве, прапаную:

1. IV з'езд ТБМ правесці ў бліжэйшыя два месяцы.

2. На з'ездзе прыняць рашэнне аб утварэнні на базе ТБМ палітычнай партыі «Наша будучыня», мэтай якой будзе пабудова Незалежнай Народнай Рэспублікі Беларусь, а бліжэйшай задачай стане аб'яднанне грамадзян Рэспублікі Беларусь у адзінае цэлае — Народ і перамога на выбарах у Вярхоўны Савет.

Жыве Беларусь!

**Алесь КРЭМЕНЬ, прыхільнік ТБМ.**
Скідаль.

# ПОСТУП ТЫДНЯ



○ ***ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ЗРАБІЎ ДВУХДЗЁННЫ ВІЗІТ У СТАЛІЦУ БЕЛЬГІІ БРУСЕЛЬ.*** *Было падпісана шэраг важных дакументаў, у тым ліку Пагадненне аб партнёрстве і супрацоўніцтве паміж Еўрапейскім Супольніцтвам і Беларуссю і некалькі двухбаковых дагавораў з Бельгіяй.*

○ **У «НАРОДНАЙ ГАЗЕЦЕ» З'ЯВІЎСЯ АРТЫКУЛ ВАСІЛЯ БЫКАВА, У ЯКІМ ЁН ГАВОРЫЦЬ**: «Задураны бальшавіцкай прапагандай народ яўна не ў стане зарыентавацца ў элементарнай сутнасці палітычных партый, своечасова ўбачыць сярод іх тыя, што створаны спецслужбамі ў інтарэсах суседняй дзяржавы ці для расколу ўласнага нацыянальна-дэмакратычнага руху. Тым болей што ўсе яны надзелены прывабнымі праграмамі, маюць сучасныя найменні і даволі спрытна жангліруюць папулярным мячыкам «правоў чалавека». Наш электарат толькі цяпер пачынае разумець, што краіне ў якасці прэзідэнта патрэбны нацыянальны патрыёт, чалавек глыбока маральны. Іншы немінуча завядзе нацыю ў прорву».

○ ***10 САКАВІКА КІРАЎНІК АДМІНІСТРАЦЫІ ПРЭЗІДЭНТА ЛЕАНІД СІНІЦЫН ПРАДСТАВІЎ*** *супрацоўнікам упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі новага начальніка ўпраўлення — Уладзіміра Замяталіна, які замяніў Аляксандра Фядуту. Уладзімір Замяталін раней быў прэс-сакратаром былога прэм'ера Вячаслава Кебіча. Знаёмыя імёны!*

○ **5 САКАВІКА АФІЦЫЙНА ПАЧАЛАСЯ ВЫБАРЧАЯ КАМПАНІЯ Ў НОВЫ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.** На працягу месяца (да 3 красавіка) будзе ісці вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты. Паводле папярэдніх прагнозаў, на кожны дэпутацкі мандат будзе прэтэндаваць не менш як 30 кандыдатаў.

○ ***ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БЕЛАРУСІ ВЫЗНАЧЫЎ ДАТУ ПРАВЯДЗЕННЯ ВЫБАРАЎ ДЭПУТАТАЎ У МЯСЦОВЫЯ САВЕТЫ — ЯНЫ ПРЫЗНАЧАНЫ НА 11 ЧЭРВЕНЯ 1995 ГОДА.***

○ **АЖНО ТРЫ МІЛЬЁНЫ РУБЛЁЎ ВЫДЗЯЛІЎ** Брэсцкі абласны Савет на праграму развіцця беларускай мовы ў вобласці ў 1995 годзе. І на колькі дзён гэтых грошай хопіць?

***АЛЕ! АЛЕ!***

# «Чорнае і белае»: абураныя і зняважаныя беларускія дзеці ў сценах Белтэлецэнтра

***У канцы сакавіка да выхаду ў беларускі тэлеэфір запланавана праграма рэдакцыі дзіцячых праграм з назвай «Чорнае і белае». Але падзеі, што адбыліся пад час здымкаў гэтай перадачы, надалі ёй у сталіцы заўчасную вядомасць.***

— Усё пачалося з тэлефоннага званка, — сказаў мне дырэктар ліцэя пры Беларускім гуманітарным культурна-адукацыйным цэнтры Уладзімір Колас. — У сярэдзіне лютага ў ліцэй патэлефанавалі з дзіцячай рэдакцыі тэлевізійных праграм. І супрацоўніца гэтай рэдакцыі запрасіла некалькіх нашых навучэнцаў да ўдзелу ў запісе перадачы «Чорнае і белае», прысвечанай выбару мовы навучання ў школе. Тэма падалася мне і дзіўнай і цікавай. Я спытаў, хто яшчэ будзе браць удзел у гэтай перадачы і пачуў адказ: вучні школ з расійскай мовай навучання, прадстаўнікі Міністэрства адукацыі ды ўдзельнікі «Комитета за свободный выбор языка обучения». Гэткі падбор удзельнікаў падаўся мне дастаткова тэндэнцыйным ужо таму, што запрашэнняў не атрымалі прадстаўнікі Бацькоўскага камітэта беларускамоўных школ і класаў. Але, нягледзячы на гэта, я даў згоду на ўдзел у перадачы нашых ліцэістаў , адных, без бацькоў ці выкладчыкаў, бо людзі яны дастаткова сталыя і самастойныя.

Але на наступны пасля запісу перадачы дзень я ўбачыў ліцэістаў абуранымі і пакрыўджанымі, а, даведаўшыся аб тым, што здарылася, быў абураны і сам...

**Пра тое, што здарылася, карэспандэнту «Нашага слова» расказалі Вольга Башура, Вольга Кузьміна і Вольга Градзінар — студэнткі другога і трэцяга курса ліцэя, якія бралі ўдзел у запісе перадачы:**

— Яшчэ да перадачы мы заўважылі, што людзі, з якімі пад час запісу мы будзем весці дыскусію, уважліва прыслухоўваліся да нашай размовы. Ужо потым мы зразумелі: яны цікавіліся, якой мовай мы гаворым адна з адной, і былі здзіўлены, пачуўшы, што па-беларуску мы размаўляем не толькі з імі, але і паміж сабой, на нейкія адвольныя тэмы.

— Пад час запісу перадачы ніякіх асаблівых спрэчак не было. Хіба што ў нас спыталі, з якога, на наш погляд, класа трэба пачынаць вывучэнне беларускай мовы? Нас гэта здзівіла: навошта ж вывучэнне мовы, калі павінна існаваць і ўжо існуе сістэма адукацыі ў роднай мове? Тады нам гэта пытанне падалося смешным.

— Быў і такі смешны момант, калі дзяўчына з расійскай школы сказала нам: «я лічу», а потым папраўілася — «я считаю...»

— У час дыялога ў студыі мы чулі: дзяўчаты, мы захапляемся тым, што вы гаворыце па-беларуску, малайцы, але не трэба перашкаджаць тым, хто вучыцца па-расійску, трэба паважаць іхні выбар і не пазбаўляць іх расійскай культурнай спадчыны.

— Размова падалася нам трохі незразумелай — загаварылі аб суадносінах колькасці беларуска- і расійскамоўных школ. Але што аб гэтым маглі сказаць мы, вучні?

— Удзельнікамі перадачы былі мы, ліцэісты, дзве дзяўчыны з нейкай беларускай школы, некалькі вучняў расійскамоўных школ і людзі з «Комитета за свободный выбор языка обучения». І атрымалася так, што размова, па сутнасці, ішла не паміж вучнямі розных школ, а паміж намі, школьнікамі, і гэтымі дарослымі, з камітэта.

— Нам было вельмі цяжка, бо дыскутаваць давялося з дарослымі людзьмі, добра падрыхтаванымі да гэтай размовы і значна лепш адукаванымі — прафесійнымі гісторыкамі, псіхолагамі... Перапыніць іх, каб даказаць сваю слушнасць, папросту не дазваляла розніца ва ўзросце...

— Так, пад час размовы мы ўвесь час адчувалі няроўнасць становішча. Бо тыя дзяўчаты з расійскай школы спасылаліся адно на тое, што ім далёка ездзіць у школу, а пытанні аб тым, вывучаць ці не вывучаць беларускую мову і навошта яна патрэбна, уздымалі дарослыя. І з імі мы мусілі спрачацца аб тых ці іншых фактах гісторыі краіны і народа.

— Школьнікі з расійскамоўных класаў наракалі амаль выключна на тое, што ім давядзецца далёка ездзіць у школу. Затое жанчына, як нам сказалі — псіхолаг, прадстаўнік камітэта, зачытала нам даведку аб тым, хто колькі зрабіў памылак на ўроках беларускай мовы. Як быццам на ўроках расійскай мовы ніхто не памыляецца.

— Думаю, што з прадстаўнікамі камітэта мы былі на роўных і маглі адстаяць свае думкі. Але мы не перапынялі іх, даючы выказацца да канца са звычайнай павагі да старэйшых. Затое

*(Заканчэнне на с.3.)*

*Уражанні*

# Хочаш стаць беларусам — заслужы

З вялікай цікавасцю чытаю «Наша слова» ад першага да апошняга радка. Ганаруся, што ёсць яшчэ ў нас людзі, якія разам з ТБМ узняліся на абарону беларускай мовы. Так, ганаруся.

Вельмі трапны эпіграф у «Нашага слова»: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» А ведаеце, у нас, у Брэсце, летась некаторыя бацькі дзяцей з некалькіх гарадскіх школ, калі пачулі, што іх чады будуць вучыцца на дзяржаўнай мове, сапраўды на першым часе амаль не памерлі. Пакуль гэта да іх дайшло, што да мінулага звароту не будзе. Што думаю я асабіста наконт нэтай праблемы? Палюбіць нам, беларусам, сваю Бацькаўшчыну, прызнаць яе суверэнітэт, мову перашкаджае моцны дэфіцыт унутранай культуры.

Прыслухайцеся, калі збяруцца ў гурт некалькі бэйбусаў, да іх размовы. У іх жа пасля кожнага слова ідуць «моцныя», ісцінна рускія выразы, якія, па іх жа тлумачэнні, служаць для звязкі слоў у сказ і якія на беларускую мову перакласці нельга. Ну, сапраўды, бедная беларуская мова на мацюгі, на брудную лаянку. Дык як жа тут загаворыш па-беларуску?

Але не спяшайцеся гладзіць сябе па галаве. Прывяду толькі два выпадкі, сведкам якіх даваўся быць. Выпадак першы. Яшчэ «да перабудовачнага» часу. Да Кобрына заставалася кіламетраў з пятнаццаць. Зморaныя марудная яздой па ўхабістай дарозе, у душным, маленькім аўтобусе, пасажыры марылі аб адным — хутчэй бы дабрацца да фінішу, як гаворыцца. І раптам на адным з прыпынкаў здарылася неспадзяваная затрымка. У аўтобус увайшла старэнькая бабулька і, дастаўшы з хустачкі некалькі манет, сухенькай рукой працягнула іх вадзіцелю. Той старанна пералічыў капейкі, зірнуў у цэннік, на бабулю і сказаў: «Не хапае». «Ой, Божа ж мой, — замітусілася старая, — а ў мяне ж больш няма». «Не мая справа, — бескампрамісна буркнуў вадзіцель. — За кожнага я плаціць не збіраюся. Няма, дык выходзьце. Не затрымлівайце аўтобус».

Бабуля вохкала, тапталася, аднак да выхаду ні кроку. Пачалі патрабаваць: «Паехалі», на што вадзіцель спакойна растлумачыў: «З бабуляй валяваць я не збіраюся. Ехаць з «зайцам» у салоне — таксама. Ано ж кантроль. Я не мільянер».

Тады пачалі даносіцца папрокі ў адрас безбілетнай пасажыркі. Маўляў, час не цярпіць, выходзь, бабулька, калі плаціць не хочаш, і ўсё тут. І вось старэнькая пачала збірацца да выхаду. У гэты момант падняўся малады, стройны, у форменнай вопратцы афіцэр (звання не памятаю). Ён падышоў да вадзіцеля, дастаў з кішэні партманет і спакойна, на чыстай рускай мове спытаў: «Сколько с бабки?» Нехаця, праз зубы вадзіцель адказаў. Афіцэр працягнуў грошы. У хуткім часе аўтобус крануўся з месца. Не ведаю, як хто, а асабіста я гарэў ад сораму. Асабліва няёмка было ад думкі, што самым добразычлівым з нас аказаўся чалавек з другой рэспублікі (гэта высветлілася адразу ж пасля таго, як крануўся аўтобус), не наш, не беларус.

Выпадак другі. У «Ікарусе» было на здзіўленне не надта цесна. Я стаяў пасярэдзіне пляцоўкі, калі раптам ззаду пачулася лаянка. Я азірнуўся. Высветлілася, што жанчына-кантралёр выявіла «зайца». Безбілетным аказаўся даволі малады, ахайна апрануты мужчына. Прыехаў ён разам з жонкай да нас у Брэст з братняй Украіны. Жонка купіла праязны талон, а ён як камісаваны па стану здароўя былы афіцэр меў права на бясплатны праезд у гарадскім транспарце. Не ведаю, ці распаўсюджвалася тая ільгота на нашу рэспубліку, але ж справа не ў тым.

Дык вось, калі падышла кантралёрка, жонка паказала талон, а ён палез у кішэню за пасведчаннем. І тут выявілася, што патрэбны дакумент застаўся дома ў другой вопратцы. Ён разгублена пачаў гэта тлумачыць. Да размовы далучылася жонка, маўляў, мы гатовы і штраф заплаціць, аднак у такім разе нам не хопіць беларускіх грошай на білет дадому.

Лагодная кантралёрка збіралася ўжо нават дараваць недысцыплінаваным гасцям. Усялякае здараецца ў дарозе. Але ж раптам з суседняга сядзення да іх павярнуўся сярэдніх год мужчына.

— Нахалы! Штрафовать их! — ні з таго, ні з сяго зароў ён нечалавечым голасам. — Знаем мы. Много тут всяких ездит. Бедненькие нашлись. Штраф с них и на всю катушку.

— Супакойцеся, мужчына. Разбярэмся неяк, — паспрабавала крыху згладзіць становішча кантралёрка.

— Разберетесь. Мягкие вы слишком. А тут построже нужно. Вот из-за таких нахалов и транспорт в убытке, — не супакойваўся люты вораг «зайцоў».

Пасля такога павароту справы наш брат-украінец счырванеў як бурак. У яго жонкі задрыжаў падбародак, на твары з'явілася вільгаць. Пад уважлівым позіркам амаль усіх пасажыраў яны гатовы былі праваліцца скрозь зямлю.

— Ишь, нищие! На рынки у них хватает, а на билеты — нет! — не сунімаўся мужчына.

Апошнія словы прагучэлі кулямётнай чаргой.

Вось вам і лагодны беларус! За адно Богу дзякуй, што карыстаўся ён не нашай моваю.

Дык вось, успамінаючы ўсё гэтае, аб тым і сказаць хацеў, што мо такіх «нашых», «сваіх» і схіляць не трэба да беларускасці? Мо па-іншаму пытанне тое ставіць час надышоў: хочаш беларусам звацца, моваю свайго народа карыстацца — заслужы!

**Уладзімір ХРЫСЦЮК.**
г.Брэст.

## Скаўцкі сойм

25 лютага гэтага года ў Менску адбыўся другі Сойм Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў. Акрамя самога АБС, яго правядзенню паспрыялі дабрачынны фонд «Мы — дзецям», Рэспубліканскі палац дзяцей і моладзі ды Рэспубліканская станцыя юных турыстаў. 51 дэлегату — удзельнікам руху беларускіх скаўтаў — былі прадстаўлены ўсе 12 харугваў рэспублікі, што ўваходзяць у склад АБС.

На Сойме былі падсумаваныя вынікі дзейнасці Аб'яднання на працягу трох гадоў існавання гэтай арганізацыі. Акрамя таго, былі ўнесены змены ў Статус АБС, якія ўзгаднілі яго з дзеючым заканадаўствам краю. Былі таксама праведзены выбары кіраўніцтва арганізацыі.

Паводле новага Статута, кіраўніцтва Аб'яднаннем Беларускіх Скаўтаў цяпер здзяйсняе Рада, якая кіруе ў час паміж Соймамі, ды Канцылярыя, якая з'яўляецца выканаўча-распарадчым органам.

У склад Рады, якой, паводле новага Статута, нададзены вялікія паўнамоцтвы, увайшлі 9 асоб: трое прадстаўнікоў скаўцкіх арганізацый Менска і па аднаму ад кожнай вобласці. Старшынёй Рады абраная сп-ня Вольга Кліманoвіч. На пасаду канцлера абраны сп.Вадзім Сугойдзь, скаўт-падскарбіямі сталі сп.сп. Алесь Лозка і Алесь Чарняўскі.

Соймам вырашана, што з гэтага часу канцылярыя АБС будзе знаходзіцца ў Менску, па адрасу: вул.Някрасава, 5-а. На гэты адрас можа звярнуцца кожны, хто цікавіцца рухам беларускіх скаўтаў і жадае да яго далучыцца.

# Прэзідэнту Расейскай Федэрацыі
## *сп. ЕЛЬЦЫНУ Б.М.*

Камісія па гісторыі і культуры Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» звярнулася да Прэзідэнта Расейскай Федэрацыі спадара Ельцына Барыса Мікалаевіча, у якім гаворыцца, што на працягу стагоддзяў знешняя палітыка Масквы была скіравана на захоп Беларусі, якая ў старажытныя часы называлася Вялікім Княствам Літоўскім. Звыш 400 гадоў Масква вяла агрэсіўныя войны супраць нашай Айчыны, але так і не змагла яе адужаць на пабаявішчы. Толькі ў 1795 г. Расейскай імперыі ўдалося цалкам захапіць Беларусь. Агрэсіўная палітыка Расеі прынесла нашай Бацькаўшчыне разбурэнне дзяржавы і страту мільёнаў чалавечых жыццяў. Маскоўская акупацыя XVII ст. забрала кожнага другога жыхара Беларусі. На Беларусі Масква ажыццяўляла самы сапраўдны генацыд — спусташалася зямля, разбураліся гарады і замкі, людзей забіралі ў рабства, вывозілі нацыянальныя скарбы, мастацкія каштоўнасці.

Цяпер, калі Беларусь дасягнула незалежнасці, наш народ з поўным правам патрабуе ад суседняй дзяржавы, у першую чаргу, павагі яе суверэнітэту і неўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы. Беларускі народ ведае, што ягоны дабрабыт і шчасце залежаць не ад якога б там ні было саюзу з іншай дзяржавай, а ў першую чаргу ад ягонай працы на сваю карысць і ад узаемавыгаднага супрацоўніцтва з усімі дзяржавамі свету, у тым ліку і з Расейскай Федэрацыяй, як з раўнапраўнымі партнёрамі.

У сувязі з гэтым, — звяртаецца да спадара Прэзідэнта камісія, — патрабуем вяртання нацыянальных скарбаў Беларусі, вывезеных у Расею ў розныя часы. Да ліку такіх належаць: «Літоўская метрыка» — дзяржаўны архіў Вялікага Княства Літоўскага XIV—XVIII стст. — каля 600 тамоў; шматтомныя выданні беларускага першадрукара Францішка Скарыны; калекцыі слуцкіх паясоў ды іншыя вырабы беларускіх мануфактураў; археалагічныя зборы, нумізматычныя калекцыі і скарбы з беларускіх земляў; унікальныя зборы нясвіжскага ды іншых замкаў і шмат іншых каштоўнасцяў беларускага народа.

Беларусь мае права на маральную і матэрыяльную кампенсацыю за больш чым 200-гадовую акупацыю і за страты, якія яна панесла ў выніку расейскай агрэсіўнай палітыкі.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

*Выконваючаму абавязкі Старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь сп. ЦІХІНЮ В.Г.*

**Паважаны Старшыня!**

**Дзесяткі гадоў вучні нашай краіны, якія заканчваюць беларускія школы, не маюць магчымасці атрымаць вышэйшую адукацыю на беларускай мове. Так было ў часы існавання СССР. Сітуацыя практычна не змянілася і ў часы незалежнай Рэспублікі Беларусь.**

**Сёлета 13 тысяч вучняў закончаць беларускія школы, а для далейшага навучання на беларускай мове ў ВНУ нашай краіны ўведзена ўсяго некалькі педагагічных спецыяльнасцей. Выкладанне тэхнічных, эканамічных, вайсковых, прыродазнаўчых і інш. спецыяльнасцей на беларускай мове ніводная вышэйшая навучальная ўстанова Беларусі практычна не вядзе.**

**За апошнія пяць гадоў, як прыняты Закон аб мовах, бацькі і грамадскасць Беларусі неаднаразова звярталіся ў Міністэрства адукацыі, у Савет Міністраў і Вярхоўны Савет з просьбамі адкрыць Беларускі дзяржаўны нацыянальны універсітэт, у якім бы вучні беларускіх школ маглі працягнуць сваю адукацыю, але так і не дачакаліся станоўчага адказу.**

**На зварот да Прэзідэнта Беларусі з адкрытым лістом, які быў надрукаваны ў «Народнай газеце» 26 кастрычніка 1994 года, быў дадзены адказ міністрам адукацыі сп. В.Стражавым, які па сутнасці з'яўляецца адпіскай. З яго адназначна вынікае, што пытанне аб нацыянальным універсітэце раней 1998 года разглядацца не будзе.**

**13 тысячам вучняў патрэбны шматпрофільны Беларускі дзяржаўны нацыянальны універсітэт зараз, а не ў 1998 годзе. Мы — беларусы, грамадзяне сваёй краіны, жывём на сваёй зямлі, плацім падаткі і маем поўнае натуральнае і юрыдычнае права вучыць дзяцей у ВНУ на сваёй мове, якая, да таго ж, дзяржаўная. Сітуацыя, што склалася ў сістэме вышэйшай адукацыі краіны — гэта дыскрымінацыя беларусаў па нацыянальнай прыкмеце, парушэнне нашых канстытуцыйных правоў.**

**Просім Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь узбудзіць ад свайго імя справу аб парушэнні Міністэрствам адукацыі Беларусі канстытуцыйных правоў грамадзян Беларусі вучыцца па-беларуску ў сістэме вышэйшай адукацыі. Гэтыя правы замацаваныя ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (арт.50), Законе аб адукацыі (арт.6) і Законе аб мовах (арт.25).**

**З просьбай да Вас звяртаюцца арганізацыі, якія прадстаўляюць многія тысячы грамадзян Беларусі.**

*Гарадскі бацькоўскі камітэт беларускамоўных школ і класаў г.Менска*
*Задзіночанне беларускіх студэнтаў*
*Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны*
*Менская гарадская Рада ТБМ імя Ф.Скарыны*
*Саюз пісьменнікаў Беларусі*
*Свабодны прафсаюз студэнтаў БДУ*
*Свабодны прафсаюз Беларусі*
*Свабодны прафсаюз педагогаў Беларусі*
*Творчая суполка мастакоў «Пагоня»*
*Згуртаванне Беларускае Шляхты*
*Краязнаўчае таварыства Беларусі*
*Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне»*
*Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада*
*Нацыянальна-Дэмакратычная партыя Беларусі*
*Беларуская Хрысціянска-Дэмакратычная партыя*
*Жаночы Хрысціянска-Дэмакратычны Рух Беларусі*
*Беларуская партыя Свабоды*
*Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ветэранаў*
*Мартыралог Беларусі*
*Менскі культурна-асветны клуб «Спадчына»*
*Беларускае згуртаванне вайскоўцаў*
*Беларуская нацыянальная партыя*
*Усебеларускі жаночы фонд Еўфрасінні Полацкай*
*Беларуская сялянская партыя*
*Дэпутацкі клуб г.Менска «Дэпутаты за рэформы»*

## Сумесная заява ў абарону роднай мовы

Жлобінская раённая рада ТБМ імя Ф.Скарыны і мясцовыя арганізацыі БСДГ, БНФ, аб'яднаных дэмакратаў і нацдэмаў прынялі сумесную заяву да грамадскасці. У ёй, у прыватнасці, адзначаецца, што апошнім часам пачасціліся правакацыйныя выступленні супраць беларускай мовы, яе дзяржаўнасці. Статус дзяржаўнай прапануецца надаць і расійскай мове. Пры гэтым не ўлічваецца тое, што прыняцце такога рашэння непазбежна прывядзе да канчатковага знішчэння беларускай мовы.

Расійская мова на Беларусі сёння мае дастаткова вялікія юрыдычныя правы, гарантуецца законам яе свабоднае развіццё. У сваю чаргу беларуская мова патрабуе шырокай падтрымкі як з боку дзяржавы, так і грамадскасці. І наш маральны і грамадзянскі абавязак падтрымаць тое вырашэнне моўнай праблемы, якое дэкларавана ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**Мікалай ШУКАНАЎ,**
г.Жлобін.

*Бялыніцкія весткі*

## Журы назвала пераможцаў

Яшчэ напрыканцы кастрычніка мінуўшага года рада раённага аддзялення ТБМ сумесна з раённым аддзелам народнай адукацыі аб'явіла сярод школьнікаў раёна і навучэнцаў мясцовага ПТВ-217 завочную краязнаўчую канферэнцыю на тэму «Мой родны кут». Навуковыя работы па гісторыі роднага краю павінны пісацца выключна па матэрыялах вывучэння гісторыі вёсак, мясцовага фальклору, этнаграфіі, дойлідства.

Спецыяльна ўтворанае для падвядзення вынікаў канферэнцыі журы разгледзела навуковыя работы школьнікаў. Лепшымі прызнаны працы вучняў Вялікамашчаніцкай СШ Андрэя Атрошкіна «З гісторыі вёскі Вялікая Машчаніца», Свацілавіцкай СШ Алеся Козырава «Археалагічныя помнікі роднага краю», СШ № 1 райцэнтра Таццяны Ляньковай «Гісторыя Бялынічаў да XIX стагоддзя», Цяхцінскай СШ Наташы Хрушчовай «Гісторыя вёскі Цяхцін», Вішоўскай СШ Людмілы Алёшынай «Учора, сёння і заўтра нашай вёскі».

Як і было абяцана, пераможцы завочнай краязнаўчай канферэнцыі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі райана і каштоўнымі падарункамі, якія былі набыты раённай радай ТБМ на ўласныя сродкі і грошы, выдзеленыя працоўным калектывам мясцовага арэнднага прадпрыемства «Аграсервіс», філіяй БСДГ.

Акрамя гэтага, Ганаровымі граматамі адзначыла журы работы вучняў СШ № 2 райцэнтра Дзмітрыя Шчагорцава, СШ № 1 Алены Барковай і Аксаны Струновіч, Алешкавіцкай НСШ Алены Міхадзёнак, Кудзінскай НСШ Надзеі Будкевіч, Эсьмонскай СШ Алены і Наташы Лапо.

Падводзячы вынікі правядзення завочнай краязнаўчай канферэнцыі, раённыя рады ТБМ імя Ф.Скарыны і краязнаўчага Таварыства адзначылі, што вучні Галоўчынскай, Старасельскай і Навасёлкаўскай СШ, выключнай большасці няпоўнасярэдніх школ зусім не прынялі ўдзелу ў конкурсе. Гэта пэўным чынам сведчыць пра абсалютную абыякавасць кіраўніцтва школ і настаўнікаў грамадскіх дысцыплін да актывізацыі краязнаўчай работы, развіцця пазнавальных інтарэсаў вучняў і пашырэння іх ведаў па гісторыі роднага краю.

**Міхась КАРПЕЧАНКА.**

РУПЛІЎЦЫ

# Але ж і жывучы ён, «беларускі элемент»!

Радуе, што шмат грамадзян Беларусі — рускіх, яўрэяў, палякаў — сталі на абарону інтарэсаў беларускай зямлі. Яны зразумелі: ім тут жыць і хату сваю патрэбна берагчы. Больш яшчэ радуе тое, што праблемы Адраджэння захапілі школу: настаўнікаў і дзяцей. Днямі я пабываў у Зубкаўскай сярэдняй школе Клецкага раёна. Настаўнікі — людзі шчырыя, адданыя справе нацыянальнага Адраджэння. Ініцыятарам і душой навучання ды выхавання на традыцыях нашага народа з'яўляецца і дырэктар школы Скаварада Міхаіл Аляксеевіч.

Увесь дзень, што я быў у школе, я чуў толькі родную мову. Наогул, школьнае асяроддзе можна параўнаць з казкай. Сама школа ў беларускім стылі, аздоблена нацыянальным арнаментам. Я бачыў інсцэніроўкі беларускіх казак, рэпетыцыю гуртка беларускага танца, выстаўку дзіцячых малюнкаў «Беларусь родная», вырабы дзяцей з дрэва, вышыванкі і карункі, тэатралізаванае прадстаўленне «Вандроўныя артысты»...

Пабываў я ў 4а класе на ўроку, які праводзіўся па тэме «Мая радзіма — Беларусь». Вяла ўрок Алена Аляксееўна Сарокіна. Адразу звярнуў увагу на плакат, на якім было напісана: «Любіце мову беларускую. Гэта мова героя ў і патрыётаў. Не шануюць яе цемрашалы, здраднікі незалежнай Беларусі!». Вучні падрыхтаваліся вельмі добра і выступалі актыўна.

**Ілона Міхед:** Беларуская мова даўней была вельмі развітой, да 1696 года была дзяржаўнай. Пасля Люблінскай уніі ёй сталі рабіць розныя перашкоды, звузілі яе сацыяльныя функцыі, выкарыстанне ва ўсіх відах службовага справаводства, а пасля забаранілі.

**Тоня Задаліна:** Калі на Беларусь прыйшлі войскі расійскай імперыі, яе кіраўнікі заявілі, што беларуская землі — гэта спрадвечна руская. Адсюль і мова павінна быць руская. 18 ліпеня 1840 года выйшаў «Указ сената о запрещении употребления терминов «Белоруссия» и «Литва». Было прадпісана забараніць вывучэнне беларускай гісторыі, мовы. Дзяцей патрэбна было навучаць на «букварях российских», «прописях российских», «истории российской».

Слухаючы выступленні дзяцей, я ўспомніў «Докладную записку Белорусского генерал-губернатора князя Н.Н.Хованского 1824 года», якая з'яўляецца доказам адсутнасці ў XIX ст. у беларускага народа цягі да Расіі і сцвярджае ненавуковасць палажэння «воссоединения».

«...природные белорусы не только пожилых лет, но и молодые, несмотря на давность присоединения края питают какое-то равнодушие и неприязнь к коренным русским и ко всему русскому».

Ён прапанаваў цару ў сувязі з гэтым узмацніць расійскі элемент у Беларусі. Настаўнікаў, асабліва дырэктараў школ, ставіць з карэнных расійцаў, ім даць прывілеі. Гэта быў удар па беларускай інтэлігенцыі, які адчуваецца і цяпер. Напрыклад, у БДУ у сярэдзіне 20-х гадоў XX ст. сярод усіх прафесараў (31 чалавек) беларус быў толькі адзін. З 395 выкладчыкаў трох ВНУ толькі 56 чалавек больш-менш ведалі беларускую мову.

А як у апошні час? На тысячу чалавек дарослых было з вышэйшай адукацыяй у 1979 годзе беларусаў 50, рускіх 174; у 1989 годзе — беларусаў 84, рускіх 226. На 100 тысяч чалавек у 1979 годзе дактароў навук беларусаў 5, рускіх 6; у 1989 годзе беларусаў 26, рускіх 33. Кандыдатаў навук адпаведна беларусаў 68 і 93, рускіх 326 і 398. Студэнтаў на 10 тысяч чалавек у 1970/71 навучальным годзе беларусаў 123, рускіх 366; у 1980/81 — беларусаў 160, рускіх 326. Хто каго прыцясняе? У Менску няма на 1995 год ніводнай беларускай школы, рускія гавораць — яны ўсе беларускія, і хлусня, і нахабства.

**Міша Верамейчык** гаварыў пра Янку Купалу, Якуба Коласа. Прачытаў вершы Л.Геніюш:

«Як жыць — дык жыць для Беларусі
А без яе — зусім не жыць».

**Гена Новік** расказваў пра Цішку Гартнага. **Ваня Кішко** пра Змітрака Бядулю, **Маша Кімка** аб «Нашай Ніве» — газеце беларусаў для беларусаў.

Чыталі дзеці і свае вершы, падрыхтаваныя дома. Вось вершы **Вадзіма Крука:**

*Ты, наша родная мова,*
*Мілагучнае шчырае слова,*
*Ты з калыскі мяне падымала,*
*Гаварыць і хадзіць навучала.*

*О, Беларусь, ты край мой родны,*
*Хачу, каб век ты быў свабодны,*
*Заўжды сады твае цвілі,*
*І мы шчаслівыя былі!*

**Люба Бурчыц:**

*Беларуская мова,*
*Як ты дорага мне!*
*Ты з калыскі мяне падымала*
*І вучыла чытаць на далонях*
*Любімых бацькоў.*

**Міша Верабейчык:**

*Родная мова мая,*
*Як люблю цябе я!*
*Прачынаюсь з табой і кладусь.*
*Я любіць цябе буду, як матку радную,*
*І ніколі ў жыцці я не здраджу табе.*

**Юля напісала верш сумесна з сяброўкамі:**

*Мы маем права чытаць,*
*Мы маем права пісаць,*
*А маем мы права праўду знаць?*
*Не.*
*Дзядзькі ў Менску праўды баяцца,*
*Праўду хаваюць.*
*Чаму?*
*Не любяць зямлі яны нашай,*
*Не любяць людзей яны нашых...*
*А што яны любяць?*
*Чужую мову,*
*Чужую культуру,*
*Чужынцаў...*
*Чаму?*

Цікавы ўрок-падарожжа правяла Тамара Уладзіміраўна Крук на тэму «На рэчцы» па паэме Якуба Коласа «Новая зямля». Гэта быў урок развіцця разумовай здольнасці і душэўнай чысціні дзяцей.

Пазнаёміўся я з выкладчыкам англійскай мовы — Карачуном Уладзімірам Уладзіміравічам. Вядзе ён урокі па-беларуску, рускай не карыстаецца. Беларускую мову ставіць на адзін узровень з англійскай.

Вельмі цікавы выкладчык вытворчагаспадарчага профілю Камінскі Канстанцін Анатолевіч. Малады чалавек, дзеці за ім гурбой ходзяць. Залатыя рукі. Пад яго кіраўніцтвам дзеці робяць паліцы, рамы, шафы, посуд і г.д. Усё ў беларускім стылі і арнаменце.

Калі ехаў дадому, думаў: чаму ў некаторых уладных структур і людзей рускай культуры свярбіць заваліць беларускую культуру і асвету? Дзеля чаго? Хіба рускім ці палякам стане лепш ад прыгнёту беларусаў?

Беларусы ніколі не былі нацыяналістамі, але ж мы жывём у Беларусі, мы яе дзеці. А хто гэтага не хоча ўважыць, — граніца з Расіяй адчынена.

**Л.М.ЦЫГАНКОЎ,**
**палкоўнік запасу,**
**кандыдат гістарычны навук,**
**дацэнт.**

АЛЕ!

# «Чорнае і белае»: абураныя і зняважаныя беларускія дзеці ў сценах Белтэлецэнтра

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

яны нас перапынялі абсалютна бессаромна.

— Калі яны мелі аргументы супраць нашых выказванняў, дык выкладалі іх цалкам і падрабязна. Затое калі адказаць на нашыя словы не было чым, мы чулі: «Мы понимаем, что вы имеете свое собственное мнение, но вы же еще дети».

— Урэшце рэшт нам зусім перасталі даваць мікрафон, хаця мы самі прасілі аб гэтым, а вучні з расійскіх школ увогуле не праяўлялі ніякай ініцыятывы, за іх дзейнічалі дарослыя.

— Па сканчэнні запісу нас выпхнулі са студыі, сказаўшы: ідзіце, спрачайцеся на калідоры. Вось тады і пачалося самае цікавае.

— Адзін з удзельнікаў перадачы, дарэчы, сябра арганізацыі «Славянский Собор «Белая Русь» падараваў нам кніжку з назвай «Родной ли белорусам русский язык? Родной!». І тут наша гутарка з «камітэтчыкамі» перайшла на новы ўзровень.

— Пра выбар мовы навучання ніхто з іх ужо нават не згадваў. Затое мы пачулі, што 90 працэнтаў насельніцтва Беларусі — гэта амаль расійцы, што ніякіх беларусаў не існуе, што не трэба гвалтам насаджаць штучна створаную беларускую мову...

— Нам сказалі, што калі дзяржаўнасць абапіраецца на мову, тады і Валагодчына і Сібір павінны выйсці з Расіі.

— Ад аднаго з суразмоўцаў мы пачулі, што ён гісторык і чытае летапісы ў арыгінале, а беларусы іх фальсіфікуюць.

— Былі і абразы ў бок нашых настаўнікаў. Гаварылі аб тым, што яны ўвогуле не маюць права называць сябе настаўнікамі і навукоўцамі, што карыстацца нам трэба падручнікамі гісторыі, напісанымі ў 50-я гады.

— Абразы ў бок беларусаў гучалі ўвесь час, затое калі нехта з нас ужыў для акрэслення жыхароў Маскоўскай дзяржавы слова «маскалі», дык у адказ прагучала: «Не оскорбляйте меня!», хаця гэты чалавек хвілінай раней называў нашага выкладчыка «чекнутым».

— Пад час дыялога нашы апаненты чамусьці рабілі асаблівы націск на тое, што яны не прадстаўляюць нейкія палітычныя арганізацыі і нават заклікалі нас, школьнікаў, не займацца палітыкай. Самі ж яны, маўляў, кіруюцца не палітычнымі матывамі, а жаданнем вучыць дзяцей не на чужой, беларускай, а на роднай, расійскай, мове. Пра палітыку загаварылі ўжо на вуліцы. Калі іншыя аргументы скончыліся, адзін з нашых суразмоўцаў стаў трэсці нас за плечы і заявіў: «Девочки, посмотрите на себя: да вы же фашистки!»

— Мы пачулі, што мы — нацысты і фанаты, а потым прагучаў заклік: «Да уважайте же чужое мнение!» Праўда, нашыя думкі не збіраўся нават слухаць, не тое што паважаць, ніхто.

— Затое ўсе спяшаліся выказаць свае меркаванні пра нас, зганьбіць, прынізіць. «Извращенцы БНФ», — пачулі мы ад расійскага гісторыка. А ад псіхолага — «Психически неустойчивые дети»!

— Мы даведаліся, што калі даць нам зброю ў рукі, дык мы пойдзем забіваць, праўда, незразумела каго.

— «Вот кто будет вешать!» — казалі яны і тыкалі ў нас пальцамі.

— Усё скончылася надзвычай непрыемна: пад час спрэчак удзельніца перадачы — наша апанентка — пачала павучаць адну з нашых дзяўчын, як тая мусіць сябе паводзіць пад час размовы і, выпадкова ці свядома, ударыла яе па твары, нават не звярнуўшы на гэта ўвагі і не папрасіўшы прабачэння. Тая, і без таго знерваваная тонам спрэчкі, адказала ёй тым жа і пабегла адтуль уся ў слязах.

— Мы перапрасілі за нястрымансць нашай сяброўкі, не назваўшы, праўда, яе імя, як патрабавала тая жанчына. «А Вы б выдалі сваю сяброўку?» — спыталі мы, на што тая адказала: «Я б — выдала». І дадала: «Все белорусы такие!», а на пытанне, ці няма падобных сярод расійцаў, з гонарам адказала: «Нету!»

Можаце ўявіць, з якім настроем вярталіся мы ў ліцэй!

— Потым гэтая жанчына, дарэчы, прафесійны юрыст, прыходзіла да мяне, — сказаў дырэктар ліцэя Уладзімір Колас. — Паміж намі адбылася доўгая гутарка і пасля гэтай размовы я канчаткова зразумеў пазіцыю такіх людзей і прычыну іх стаўлення да беларушчыны. Гэта прычына — нейкая жахлівая перакручанасць іх светапогляду і маральных падстаў. Бо як інакш можна, жывучы ў краіне, не паважаць яе народ: яго ную мову і традыцыі? Пад час размовы з ёй нашы дзеці абаранялі не толькі свае перакананні, але і сваіх выкладчыкаў, сярод якіх ёсць людзі, сваёй дзейнасцю ў сферах навукі, культуры і палітыкі вядомыя па ўсёй краіне. Дык вось гэтая жанчына нават не чула іх імёнаў, напрыклад Анатоля Сідарэвіча ці Лявона Баршчэўскага. Таму я зразумеў: гэтыя людзі жывуць у іншым свеце, не чытаюць нашых кніг і газет, не цікавяцца жыццём тых, хто побач з імі, але не такі, як яны.

А як паставіліся да таго, што адбылося, самі ліцэісты? Адказ на гэтае пытанне мне дала Вольга Градзінар:

— Мы чулі, што ёсць людзі, якія не вельмі прыхільна ставяцца да беларушчыны, але з падобным мы сутыкнуліся ўпершыню. Цяпер я ведаю: скончыўшы ліцэй, мы патрапім у іншае, часам вельмі да нас непрыхільнае, асяроддзе. І нам, магчыма, давядзецца адстойваць свае перакананні. Гэтая падзея прымусіла нас адчуць сваю беларускасць нават больш. Мы адчулі сябе патрыётамі.

**У.ПАНАДА.**

**P.S.** Якстала вядома рэдакцыі, аб падзеях пад час запісу перадачы ведаюць і ў Менскім бацькоўскім камітэце беларускамоўных школ і класаў. Яго старшыня сп. А.Шамак заявіў: «Работнікі тэлевізіі ўжо не першы раз рэкламуюць дзейнасць «Комитета за свободный выбор языка обучения», дэманструючы такім чынам свае прыхільнасці».

## Адгукнуліся на анкету «Нашага слова»

***Найлепшыя (на наш погляд) 10 рубрык «Нашага слова»:***

1. Гісторыя Беларусі ў пытаннях і адказах.
2. Культура мовы.
3. Прапановы.
4. Вучымся.
5. ACADEMIA «Нашага слова».
6. Іранічнае.
7. Меркаванні.
8. Творчасць нашых чытачоў.
9. Мама, пачытай.
10. Пачутае.

***Што я хацеў бы прачытаць у «Нашым слове»?***

Артыкулы па культуры беларускай мовы.

Урыўкі з кніг па гісторыі Беларусі (Кіркора, Ластоўскага, Ігнатоўскага, Доўнар-Запольскага, Міколы Ермаловіча, Уладзіміра Арлова).

Літаратурныя творы і публіцыстыку дзеячаў беларускага замежжа.

Артыкулы, гравюры і фотаздымкі помнікаў архітэктуры і дойлідства Беларусі.

Нататнікі пра культуру і паходжанне розных народаў, якія жывуць на Беларусі.

Рэцэпты нацыянальнай кухні.

Інфармацыю пра гісторыю і жыццё розных рэлігійных канфесій Беларусі.

Гісторыю філасофскай думкі і светапогляд беларусаў (К.Тураўскі, Ф.Скарына, С.Будны, В.Цяпінскі, К.Лышчынскі, І.Храптовіч, А.Доўгірд і інш.).

Я хацеў бы бачыць «Наша слова» падручнікам роднага слова для дзетак і дарослых. Трэба, каб былі цікавыя практыкаванні з гумарыстычнымі замалёўкамі, каб была старонка «Знаходка пісьменніка», дзе былі б змешчаны найпрыгажэйшыя цікавыя сказы, звароты, прыказкі, прымаўкі (асабліва тыя, якія не маюць аналагаў у іншых мовах).

Добрая рубрыка «Язык як перац». У гэтай рубрыцы павінен быць конкурс чытачоў.

Газета павінна паспрыяць арганізацыі мерапрыемстваў па азеляненню і добраўпарадкаванню гарадоў, мястэчак і вёсак. Мерапрыемства можна прымеркаваць да славутых датаў беларускай гісторыі (набыццю гарадамі магдэбургскага права, выдання статута ВКЛ, Дню беларускіх Сьвятых, Дню 25 сакавіка).

У гэтыя дні таксама праводзіць фэсты ў старадаўніх княжаскіх мяшчанскіх і сялянскіх строях з нацыянальнай музыкай і конніцай.

Гэтыя мірныя акцыі будуць больш уплывовымі, чым палітычныя мітынгі.

У наш час духоўнага этнамазахізму настрой чытачам падняла б «Старонка гумару».

У № 7 за 1995 год з'явіўся матэрыял «Молімся па-беларуску». Трэба зрабіць сталую рубрыку. Малітвы можна браць з Беларускага праваслаўнага малітоўніка, выдадзенага беларускай аўтакефальнай царквой у Таронта (Канада).

Таксама змяшчаць выняткі з беларускага праваслаўнага календара за 1994 год.

Дай Бог вам здароўя і спору ў працы.

**Алесь РЭХНІКАЎ, Кастусь КАЗЛОЎ, Антон МАНКЕВІЧ, інжынеры БелАМА.**

Мікалай КРЫЎКО – беларушчына.
Алена ШЧУКА – англійшчына.

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

**ПЕРАГНУ́ЦЦА** (нахіліцца цераз што-н. або прагнуцца назад) — *А вы таксама працавалі і вучыліся? — раптам узлаваўся Альберчык і перагнуўся цераз стол да Віктара* (Паўлаў). *Яўхім стомлена павёў плячыма, перагнуўся трохі назад — хацеў разварушыць здзервянелую спіну* (Мележ), **ПЕРАХІЛІЦЦА** *Грузна перахіляючыся праз стол, ён падліў у Сімонаў кубак* (Самуйлёнак). *Каб заглянуць у яго [гняздо], трэба было перахіліцца назад і вісець над бяздоннем* (Маўр), **ПЕРАХІНУ́ЦЦА** размоўнае *Перахінуцца цераз стол.* — *Незакончанае трыванне*: **Перагіна́цца і перагіба́цца, перахіля́цца, перахіна́цца**. — *Параўнайце*: **П е р а в е́ с і ц ц а.**

**I. ПЕРАГО́Н** (участак чыгункі, а раней коннага паштовага і пад. шляху паміж двума бліжэйшымі пунктамі) *Жылі мы ў казарме на перагоне паміж станцыямі Магілёў і Лотва* (Лынькоў). *Апошні перагон. Ізноў мы гойсаем у паштовай каламажцы* (Сяргейчык), **ПРАЛЁТ** (участак чыгуначнага шляху ад адной станцыі да другой) *Трэба было праехаць адзін пралёт, таму, увайшоўшы ў вагон, ён [Кузьма] прымасціўся ў першым купэ* (Дуброўскі). *Яны з Таняй параіліся і вырашылі, не адкладваючы, зараз жа збірацца і ехаць. Толькі садзіцца на цягнік не ў Глыбокім, а ў Варапаеве — на адзін пралёт далей* (Машара), **СТА́НЦЫЯ** *Цягнік праязджае станцыю за дваццаць хвілін.*

**II. ПЕРАГО́Н** (малако, абястлушчанае на сепаратары) *З плоскіх даўгаватых рыльцаў ліліся два малочныя струменьчыкі: адзін сіняваты — перагон, другі жаўтавата-белы — вяршкі* (Асіпенка). *У яго [брата] і каровы, і стаеннік на ўсю аколіцу, і машыны, якіх нават і ў паноў не было. Сам вырабляў масла, а перагонам свіней карміў* (Машара), **АДГО́Н** *З дзесяці машын здадзенага малака сем машын адгону вяртаюць калгасу* (Дуброўскі). *[Андрэй Рында:] — Трымаем трох дойных кароў, а на снеданне маці тыцне табе пад нос вараную бульбачку ў шалупайках ды міску кіслага малака з адгону* (Машара).

**II. Перагон**. Адпаведнікамі беларускіх прэфіксальных сінонімаў **перагон, адгон** у англійскай мове з'яўляюцца два варыянты складанага слова: **skim milk** або **skimmed milk**. У якасці другога элемента ў абодвух выпадках паўстае назоўнік milk («малако») як цэнтр матывацыі. Першы ж элемент — аддзеяслоўнага паходжання (< to skim 'аддзяляць') — можна параўнаць з бел. асновай *гон*.

**ПЕРАДАВА́ЦЦА** (распаўсюджвацца на іншага, іншых, станавіцца іх набыткам) *Трывога людзей перадавалася Марціну і другім былым падпольшчыкам* (Каваленка). *Гэта хвароба перадаецца*, **ПЕРАХО́ДЗІЦЬ** *Будзённыя звычкі са старой кватэры пераходзілі на новую* (Хадановіч). *Нешта новае, цёплае ад студэнцкіх сэрцаў перайшло ў Аніна* (Карпюк). — *Закончанае трыванне:* **Перада́цца, перайсці.**

**ПЕРАДАВА́Я ЛІНІЯ і ПЕРАДАВА́Я** размоўнае (участак абарончай лініі, бліжэйшай да фронту ворага) *Наша насельніцтва знаходзіцца, калі хочаце, на перадавой лініі агню. Калі мы з вамі, партызаны, прыкрыты ад фашыста і лесам і нашай зброяй, то насельніцтву прыходзіцца амаль штодня сутыкацца з ворагам* (Лынькоў). *І дуб... Ён загінуў у пушчы сваёй, Як быццам на лініі перадавой* (Агняцвет). *Маўчыць і перадавая: ні стрэлу, ні выбуху, і я толькі інтуіцыяй адгадваю, што яна дзесьці там, куды вёў мяне провад...* (Марціновіч), **ПЕРАДАВЫ́Я ПАЗІЦЫІ, ПЕРАДАВЫ́Я ПАСТЫ́ і ПЕРАДАВЫ́Я** разм. *Яе [Таню] часта можна было пабачыць на перадавых пазіцыях* (Колас). *І ўдзень і ўначы да перадавых пазіцый з розных бакоў падыходзілі ўсё новыя і новыя пяхотныя, танкавыя і артылерыйскія часці* («Полымя»). *Бацькі праводзілі сына траха што не да самых перадавых пастоў Паддубаўскага атрада* (Кулакоўскі). *Салдаты ідуць на перадавыя — суровыя, сабраныя* (Рамановіч), **ПЯРЭ́ДНІ КРАЙ і ПЯРЭ́ДНЯЯ** разм. *За ўсю вайну Аляксей Ганчарык упершыню гэтак надоўга адлучаўся ад пярэдняга краю, упершыню ехаў у глыбокі тыл* (Грамовіч). *На шчасце, мы зняліся адтуль назаўтра, а яшчэ праз суткі ўжо былі на пярэднім краі* (Сіняўскі). *Месячная ціхата такая вакол. Грукне на пярэдняй стрэл, ракета бледная ўздымецца, віляючы хвастом* (Ракітны).

**1. ПЕРАДАВЫ́** (пераважна пра вайсковыя сілы, вайсковыя злучэнні і пад.; які знаходзіцца, рухаецца наперадзе астатніх, размешчаны бліжэй за іншых каля ворага) *У перадавым атрадзе быў Сёмка-матрос, Міколка, дзед Астап і сотня коннікаў-партызан* (Лынькоў). *Нашы перадавыя часці ляжаць недзе там, мы не ведаем ужо, дзе гэта — ці на той бок лесу, ці на гэты* (Чорны), **АВАНГА́РДНЫ** *Да Мікіты падышоў капітан з авангарднай роты* (Якімовіч). *Авангарднай групе далі фурманку* (Новікаў).

**2. ПЕРАДАВЫ́** (які стаіць вышэй за іншых у грамадска-палітычных адносінах) *Глядач зразумее, што Якім Сарока і Паўлінка — людзі перадавыя і ўпартыя, яны свайго даб'юцца* (Рамановіч). *Сваю мастацкую творчасць ён [Якуб Колас] накіраваў на самыя вострыя, актуальныя пытанні грамадска-палітычнага жыцця, напоўніўшы яе глыбокім сацыяльным зместам, перадавымі ідэямі* (Фіглоўская), **ПРАГРЭСІЎНЫ** *Светлыя галовы сярод прагрэсіўнай польскай інтэлігенцыі ўжо ў тыя часы адкінулі прэч гэтыя белымі ніткамі шытыя донкіхоцкія шляхецкія легенды* (Майхровіч). *Рух за арганізацыю нацыянальнай школы знаходзіў падтрымку ў прагрэсіўнай часткі вучнёўскай моладзі* (Фіглоўская).

**2. Перадавы**. У гэтым пераносным сэнсе перадавы *'які стаіць вышэй за іншых'* (і не толькі ў грамадска-палітычных адносінах, але і наогул па ўзроўню развіцця — гл. ТСБМ, т.4) — англійская мова можа прапанаваць наступныя адпаведнікі: **progressive, forward-looking, go-ahead**. Першы з іх фармальна і па сэнсу адпавядае бел. *прагрэсіўны*. У адрозненне ад *progressive*, **forward-looking** і **go-ahead**, утвораныя з уласных (непазычаных) элементаў, з'яўляюцца складанымі словамі з празрыстай матывацыяй. Так, *forward-looking* літаральна азначае 'які глядзіць уперад', а *go-ahead* — 'які ідзе паперадзе іншых'.

**1. ПЕРАДА́ЦЬ** (даць, аддаць чаго-н. больш, чым трэба) — *Даволі гуляць — молат з напільнікам чакаюць. — Або не пачакаюць яшчэ які тыдзень? — Не магу без працы. Нябось сам хвіліны не перадасі на гульню...* (Гартны). *Бабруйскі гарнізон пайшоў на дапамогу Гомелю. І ўсё, чым маглі пасабіць бабруйчане, — 500 патронаў. Дарагіх, некалькі разоў пералічаных, каб не перадаць лішняга* (Лужанін), **ПЕРАБА́ВІЦЬ** разм. *Перабавіць солі ў суп*, **ПЕРАКІНУЦЬ** разм. *Гэты чалавек свайго ніколі не пакіне.* — *Незак.*: **Перадава́ць, перабаўля́ць, перакіда́ць і перакідваць.**

ЖЫВОЕ СЛОВА

# Сыр-бор, пламені, жарсці

Не лічыце мяне пурыстам, але Бог надзяліў мяне сякой-такой чуйнасцю да слова, да мовы. Слухаю радыё, тэлевізію, чытаю газеты і як толькі дзе які моўны фальш, агрэх — у сэрца штуршок, імпульс: «Не тое, не так, такога не магло быць і не можа быць у нашай мове...» І тут жа: «Не тое — гэта так. Але як?»

Даўно ўжо гуляе ў нашай мове слова «страсці». «Разгуляліся страсці», «улегліся страсці», «прага страсці». Фігуруе і ў назвах многіх твораў — «Страсці па Аўдзею», «Страсці па Уладзіміру». Не трэба быць вялікім філолагам, каб сказаць, што згаданае слоўка выбіваецца з беларускага моўнага ладу. Але мала каго гэта турбуе. Ніхто не хоча пашукаць беларускіх адпаведнікаў. Навошта. Узяў слова з чужое мовы — і ніякіх пакутаў. Навошта галаву ламаць! Навошта пакутаваць! А што мову засмечваем, ператвараем яе ў сметнік, разбураем яе моўную стылістыку — дык такі клопат! Галоўнае — не абцяжарваць сябе!

Дык ці ёсць у нашай мове хоць якія адпаведнікі вялікарускаму слову «страсти»? Пэўна што ёсць!

На побытавым узроўні гэта можа быць і фразема ***сыр-бор***: *разгорелись страсти — разгарэўся сыр-бор.* Для перадачы эратычнага стану «страстей» (весь в страстях), думаецца, у беларускай мове ёсць вельмі ёмкае, псіхалагічна дакладнае, але пакуль незаўважанае нашымі мовазнаўцамі слова ***пламені*** *(ён быў увесь у пламенях).* Гэтае слова я запрыкмеціў у Францішка Багушэвіча ў яго вершы «З кірмашу». Пра гераіню верша Людвісю паэт напісаў:

*...Яна чакае ўся ў пламенях,*
*Уся ў пламенях ад аднэй мілосці!*

Згадзіцеся, Багушэвіч вельмі дакладна перадаў адно з найважнейшых значэнняў расійскага слова «страсти». (Зазначу толькі, што Багушэвіч, калі пісаў свой верш, не ішоў ад перакладу, як гэта часам робім мы, — узбрыло на памяць якоесь ходкае расійскае слова, падумаў, як яго перадаць па-беларуску, і, не знайшоўшы адпаведнага эквівалента, бярэм тое расійскае слова жыўцом, толькі ў беларускім фанетычным гучанні — як гэта здарылася і з «страсцямі».) Багушэвіч ішоў ад жывой мовы. Яму, пэўна, і ў галаву не прыходзіла супастаўляць згаданыя тут словы.

Магу смела сказаць: той, хто падсоўвае нашай мове словы тыпу «страсці», «знамянальны», «устройства», «ушчамленне», «абуладкаванне», «урон», «падвергся», «унушальны», не ведае ні жывой мовы, ні мовы нашых славутых майстроў слова. Паміж іншым, адна з даволі вядомых журналістак, а цяпер і грамадскіх дзяячак, калі размова зайшла пра павярхоўнае, не глыбокае веданне ёю роднай мовы, у запале сказала: «Я не мовазнаўца... Я журналістка...» Ну, што ж, журналістцы, мабыць, яшчэ можна і такое сказаць. Яе можа задаволіць і журналісцкі штамп, прыблізнае веданне граматыкі. Але няўжо і пісьменнікі да гэтага ўжо дажыліся? Гэта з іхняй ласкі гуляюць гэтыя розныя моўныя «страсці па Аўдзею».

Прызнацца, дык і я не вельмі разумею згаданай назвы. Шмат з кім раіўся, спрабаваў ператлумачыць яе на нашу, больш зразумелую мову, і нічога з гэтага не атрымалася. І ўсё ж, хто шукае, той хоць што ды знаходзіць. Не гэтак даўно ў ЛіМаўскім артыкуле Ніла Гілевіча «У імя нацыянальнай ідэі» (за 13 студзеня 1995 года) прачытаў: *«Хто ці што можа ўтаймаваць жарсці, што ўсё больш і больш распаляюцца, не ведаю».*

...***Жарсці***... Мусіць, гэта якраз тое, што і патрэбна нашай мове. *Жа́рсці, жар, жар душы, палымянасць, пламені...*

Наша мова мае свае рэсурсы, іх трэба толькі адкрыць, вылушчыць, а нават і стварыць з пэўных беларускіх моўных каранёў, як у згаданым выпадку: *жар — жарсці.*

Слова **жарсці**, паміж іншым, засведчана і ў «Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку» В.Ластоўскага, выдадзеным у 1924 годзе. У згаданым слоўніку пра слова «страсці» чытаем: «Страсть, духовы парыў да чаго, неакялзанае хаценьне, жаданьне; *жарскасьці, жарскі, жарсьць, жарлівасьць, запальчывасьць;.. Жарлівая малітва. Жарскі танцор, лавец, баец. Жарсьці сваёй пастрымаць няможна. Чалавек ён добры, а толькі жарскага характару. Губіць яго жарсьць да жанок ды гарэлкі* (Празарокі, Віл.павет).

Як бачым, знаўцы роднай мовы даўно адчулі штучнасць слова «страсці» для нашае мовы і паспрабавалі знайсці яго адпаведнік. І знайшлі — у жывой мове. Чаму ж мы гэтак рэдка карыстаемся іхнім набыткам?

Праўда, апошнім часам газета «Літаратура і мастацтва» ўсё часцей і часцей пачала карыстацца словам *жарсці.* Вось колькі прыкладаў: *Юбілейныя* ***жарсці*** (назва). У тэксце: «...*аднак,* ***жарсці*** *паводле галоўнага героя атухаюць*». І гэта ўсё ў адным нумары за 17 лютага 1995 года. Прыклад, варты падтрымкі і пераймання.

На завяршэнне нагадаю: у слоўніках народных гаворак слова «страсці» не занатавана. Гэта сведчыць пра тое, што ў жывых беларускіх гаворках слова «страсці» ніколі не было. Яго «прывялі» ў нашу мову заідэалагізаваныя журналісты і такія ж мовазнаўцы, а ўсе астатнія бяздумна карыстаюцца ім, не абцяжарваючы сваю душу сорамам перад нашай моваю.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

МАТЭРЫЯЛЫ ДА СЛОЎНІКА «БЕЛАРУСКІЯ ІМЁНЫ»

Сымон БАРЫС

# Як у нас клічуць?

## Мужчынскія імёны

*(Працяг.)*

**Флор**. Флор (лац.) — кветка. (У рускай мове — Фрол.) Фларыян. Флориан (лац.) — квітнеючы. Імяніны: кат. 4.05; пр. 31.08. Імя па бацьку — Флоравіч, Флораўна і Фларыянавіч, Фларыянаўна.

**Фока** (грэч.) — цюлень. Імяніны: пр. 4.08, 5.10. Імя па бацьку — Фокавіч, Фокаўна.

**Фоцій**. Фотий (грэч.). Імяніны: пр. 25.08. Імя па бацьку — Фоціевіч, Фоціеўна.

**Франц**. Франц (лац.). Вытв.: Франак, Франусь. Імя па бацьку — Францавіч, Францаўна.

**Францішак**. Францішка. Франциск (якое з лацінскай мовы) — франконскі. (Той, хто адносіцца да франкаў.) Вытв.: Процік, Франук, Пранук, Францік, Пронь, Франц. Імяніны: кат. 24, 29.01, 2.04, 11.05, 4.06, 21.08, 17, 20.09, 4, 10.10, 3, 22.12. Імя па бацьку — Францішкавіч, Францішкаўна.

**Фядос**. Хвядос. Феодосий (грэч.). Вытв.: Фядосік, Фядоська, Хвядос, Хведзь. Імяніны: 10.02, 22.09. Імя па бацьку — Фядосавіч, Фядосаўна і Хвядосавіч, Хвядосаўна.

**Ціт**. Тит (грэч.) — паважаны, шаноўны. Вытв.: Цiток, Цітусь, Тытус. Імяніны: пр 12.03; 15.04; 7.09; кат. 4, 26.01. Імя па бацьку — Цітавіч, Цітаўна.

**Ціхан**. Тихон (грэч.) — спешчаны, пястун. Вытв.: Ціханец, Ціханчык, Ціханка, Цішук, Цішка. Імяніны: 7.03; 29.06; 9.07; 26.08. Імя па бацьку — Ціханавіч, Ціханаўна.

**Цэзар**. Цезарь (лац.) — родавае імя ў Рыме. Імяніны: 25.02; 15.04; 22.08; 27, 28.12. Імя па бацьку — Цэзаравіч, Цэзараўна.

**Часлаў**. Вячеслав (слав.). Вытв.: Чэсь, Чэсік, Чэся, Чэська, Чэсяк, Часюк, Часюня. Імяніны: кат. 12.01; 6, 20.04; 20.07. Імя па бацьку — Часлававіч, Чаславаўна.

*(Працяг будзе.)*

*Вам, школьнікі!*

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

# Сусветная літаратура ў школе

X клас (паглыбл.)

## Квінт Гарацый Флак

(65—8 гг. да н.э.)

**Квінт Гарацый Флак (Quintus Horatius Flaccus) нарадзіўся ў горадзе Венгузіі (Паўднёвая Італія) у сям'і вольнаадпушчанага раба. Вучыўся ў Рыме і Афінах. Быў ваенным трыбунам у рэспубліканскім войску Брута, потым, пасля вяртання ў Рым, далучыўся да кола Мецэната, ад якога атрымаў маёнтак. Пасля 40 г. да н.э. быў створаны зборнік вершаў «Эподы», які складаўся з 17 ямбічных вершаў. Потым былі выдадзеныя дзве кнігі (18 вершаў) «Сатыр». Найбольшую вядомасць Гарацыю прынеслі яго «Оды» (чатыры кнігі, паміж 30 і 13 гг. да н.э.). Гэтыя творы былі напісаныя на самыя розныя тэмы і вылучаліся найвышэйшым паэтычным майстэрствам.**

**Оду «Да Мельпамены» (пад назвай «Памятнік») на беларускую мову ў 1912 годзе пераклаў Максім Багдановіч, іншыя оды вядомыя ў перакладах Алеся Жлуткі.**

Літаратура:

Гораций // Лапидус Н.И. Античная литература. — Мн., 1986. — С.142—146.

Полонская К.П. Римские поэты принципата Августа. — М., 1963.

Commager S. Odes of Horace: a critical study. — New Haven / London, 1962.

### Да Мецэната

Дасюль нязнаным, моцным крылом сягну,
Пясняр двулікі[1] плыняў эфірных, я.
Марнець не буду на зямлі ўжо,
Рушу, для зайздрасці недасяжны,
Пакіну горад. Не, не загіну я,
Нашчадак бедных[2] — ты, Мецэнаце мой,
Якога ў дом заўжды свой клічаш, —
Стыксава хваля мяне не спыніць!
Калі галёнкі скурай шурпатаю
Ўзяліся; чую — птушкаю белай я
Раблюся і пер'ем лёгкім
Крыюцца плечы мае і рукі.
Ікара ў слаўны болей Дэдалава
Баспора[3] бераг гулкі і Сіртаў край
Гэтульскіх[4] згледжу я й дамчуся
Птушкай да гіпербарэйскіх стэпаў.
І колх мяне, і дак, які тоіць жах
Перад кагортай марсаў, і дальнія
Гэлоны прымуць, і спазнае
Ібэр[5] разумны, што п'е з Радану[6].
Хаўтур не будзе! Змоўкні, жалобны плач,
І стогн агідны, і галашэнняў зык!
Сціш енк, не трэба ўшанаванняў
Лішніх — парожняй маёй грабніцы!

### Да Ліцынія Мурэны[7]

Каб суладней жыць — не імкні, Ліцыній,
На марскую глыб! Унікай таксама
Узбярэжных скалаў, калі жахлівых
Бураў баішся.
Хто сярэдзіну залатую любіць,
Той не будзе жыць пад трухлявым дахам;
Мудра ўнікне ён і палацаў гожых,
Зайздрасці вартых.

Найніжэй — сасну, што вышэй ад іншых,
Вецер долу гне. Найвялікшым гмахам
Падаць шмат цяжэй. Б'е часцей маланка
Ў горныя высі.

Моцны ў чорны час, асцярожны ў шчасці —
Дух, які прывык да ваганняў лёсу.
Ў час Юпітэр нам пасылае зімы
Лютыя. Ён жа

Ў час іх гоніць прэч. Калі сёння горка,
Не заўжды так ёсць: Апалон не вечна
Лук нацягвае свой і кітарай часам
Музу ён будзіць[8].

Будзь жа моцны, цвёрды ў гадзіну злую,
Мужна стрэнь яе, а калі шчаслівы
Вецер зноў падзьме — падбяры ты ветразь,
Поўны занадта!

### Да Леўканоі

Зведаць ты не жадай — грэх гэта знаць: мне і табе які
Суджан, Леўканоя, доляй канец. І бабілёнскіх ты
Лічбаў[9], прашу, не руш! Лепей ужо, што б ні было — цярпець:
Ці Юпітэр пашле зімаў яшчэ шмат, ці ўжо астатняя
Усцішае цяпер скалаў градой хваляў тырэнскіх[10] люць.
Больш мудрай будзь: цадзі ў чары віно; доўгай надзеі ніць
Мігам кароткім зрэж! Покуль з табой бавімся тут — імчыць
Час ліхі. Дык лаві ж хвілю і вер менш варажбе сваёй!

**Заўвагі**

1) Маецца на ўвазе прыхільнасць паэта і да ціхага вясковага жыцця, і да ўцехаў горада.
2) Гарацый быў сынам раба-звольніка.
3) Цяпер — праліў Басфор.
4) Гэтульскія Сірты — два мелкаводныя залівы на паўночным узбярэжжы Афрыкі.
5) Колхі, дакі, марсы, гэлоны, ібэры — назвы народаў, што жылі па розных краях.
6) Цяпер — рака Рона ў Францыі.
7) Ліцыній Мурэна — консул 23 г. да н.э., брат жонкі Мецэната, пакараны за ўдзел у змове супраць Аўгуста.
8) У гневе Апалон хапаецца за лук са смертаноснымі стрэламі, якімі знішчыў нямала людзей. У гуморы ён, граючы на кітары, водзіць карагоды з Музамі.
9) Бабілёнскія лічбы — гараскапічныя табліцы. З часоў Гарацыя ў Рыме карысталіся пашанаю розныя ўсходнія містычныя плыні. Сярод іх і варажба па зорках.
10) Тырэнскіх хваляў — хваляў Тырэнскага мора, што амывае італійскае ўзбярэжжа.

**Пераклад з лацінскай і заўвагі Алеся ЖЛУТКІ.**

# Наша «Пагоня» імчыць у вяках!

Канец снежня мінулага года рэдакцыя абвясціла апошнім тэрмінам прысылу прапаноў па стварэнню Гімна разам, але лісты ад нашых шаноўных чытачоў усё яшчэ паступаюць. А нехта завітвае ў рэдакцыю, каб не толькі прапанаваць уласны тэкст ці варыянт асобных радкоў, але і абмяняцца думкамі на гімнавую тэму. Многіх, аказваецца, гэта хвалюе. Гэтыя пачуцці і выказаў наш чытач з Гродна ветэран працы, інжынер-будаўнік Я.Таўпыга, адзначыўшы, што «Гімн нам патрэбны сёння, а не калі-небудзь пад нейчы настрой». Станоўча ацаніў ён і тое, што створана сумеснымі намаганнямі чытачоў «Нашага слова», назваўшы тэкст «самым лепшым з тых, якія былі раней прапанаваныя ў якасці дзяржаўнага гімна», параіўшы толькі зрабіць магчыма карацейшым. Паколькі некаторыя з нашых чытачоў прыслалі лісты са сваімі заўвагамі наконт канчатковага варыянта тэксту 1-га тура, відаць, варта нагадаць яго зноў:

Жыве Беларусь!

*Музыка Н.Сакалоўскага*
*Словы народныя*

*Мы, беларусы, — вольныя людзі!*
*Нашай «Пагоні» імчаць у вяках.*
*Горда ўздымем сімвал Радзімы —*
*Свой старажытны грунвальдаўскі сцяг.*
*Прыпеў:*
*Разам ніколі мы не загінем,*
*З Богам сустрэнем шчасця зару.*
*Наша адданасць — вечнай Радзіме.*
*Хай жа заўсёды жыве Беларусь!*

*Дружная праца сілу мацуе,*
*Годнасць гартуе з году у год.*
*Веліч Радзімы — мужнасць народа.*
*Мы — беларусы, слаўны наш род.*
*Прыпеў:*
*Разам ніколі мы не загінем.*
*З Богам сустрэнем шчасця зару.*
*Наша адданасць — вечнай Радзіме.*
*Хай жа заўсёды жыве Беларусь!*

*Край беларускі — шчодры, дзівосны.*
*Рэкі, азёры чыстыя тут.*
*Мірна гамоняць бярозы ды сосны.*
*Слаўце, нашчадкі, родны наш кут!*
*Прыпеў:*
*Разам ніколі мы не загінем.*
*З Богам сустрэнем шчасця зару.*
*Наша адданасць — вечнай Радзіме.*
*Хай жа заўсёды жыве Беларусь!*

Яшчэ раз нагадаем, што нельга да гэтага тэксту ставіцца так, быццам яго ўжо заўтра будзе спяваць па меншай меры Харавая капэла. Яго ўвогуле наўрад ці прапусціць Дзяржаўная камісія па Гімну, а потым жа яшчэ трэба, каб прыняў Вярхоўны Савет. Будзем пакуль лічыць, што гэта проста своеасаблівае творчае апытанне нашых суайчыннікаў — іх уяўленне пра саміх сябе, сваю дзяржаву ды будучыню.

З апошніх водгукаў звернем увагу на два. Ілля Януш з Лепеля, з ухвалаю кажучы пра канчатковы варыянт 1-га тура Гімна, заўважае таксама, што, на яго погляд, «у 19-м радку такі збег складоў і націскаў, што замест слова «бярозы» трэба абавязкова паставіць іншае, з націскам на першым складзе, тады пры спевах усё будзе ў парадку». Будзем мець на ўвазе і хай, як кажа сп.Януш, праверыць спецыяліст. Дадамо яшчэ, што гэты куплет можна было б увогуле скараціць, адгукаючыся на прапанову сп.Я.Таўпыгі зрабіць гімнавы тэкст карацейшым. Праўда, і шкада крыху, бо тут даецца ў сціслай форме характарыстыка Беларускага краю, згадваюцца асацыятыўна партызанскія часы («Ой, бярозы ды сосны — партызанскія сёстры»), а таксама коласаўскае: «Мой родны кут, як ты мне мілы!..» І нарэшце даецца кароткі наказ-запавет нашчадкам.

Крытычна ставіцца да гэтага куплета ўвогуле чытач з Бярэсця сп.Валерый Голуб, заўважаючы: «Край беларускі — шчодры, дзівосны ў параўнанні з Магаданскім краем». Гэта як паглядзець. Асабліва зважаючы вядомую народную прымаўку, што кожнаму хочацца сваё пахваліць. Ды перадаць, дадамо, гэтае стаўленне да роднага краю сваім нашчадкам.

Ухваляючы цалкам першы куплет у рэдакцыі, калі заключнымі ідуць радкі:

Нас акрыляе сімвал Радзімы —
Бела-чырвона-белы наш Сцяг,

сп.В.Голуб лічыць, што далей замест радка «Разам ніколі мы не загінем», лепей напісаць: «З мовай сваёю мы не загінем», бо, аргументуе сваю прапанову сп.Голуб, — «Няма мовы — няма народа». Слушна, але ж мы яшчэ і той думкі, што калі станем дружна ды разам за Беларусь, то будзе жыць і яе мова.

Цікавы крытычны разбор зрабіў сп.В.Голуб радкоў «Нашай «Пагоні» імчаць у вяках» і «Горда уздымем сімвал Радзімы». Адносна «Пагоні» ён заўважае наступнае: «Герб «Пагоня» азначае: рыцар на кані скача па горадзе і кліча: «Пагоня! Пагоня!», што азначала — на родную зямлю напалі чужынцы і ўсе мужчыны павінны стаць на яе абарону».

Тут можна прыгадаць, што тыя, хто захапляецца астралогіяй, заглыбляюцца далёка за XIII стагоддзе, калі выява рыцара-вершніка стала выкарыстоўвацца ў Вялікім Княстве Літоўскім у якасці дзяржаўнага сімвала. Аказваецца, наша «Пагоня» даўней трактавалася як знак зоркі Сірыус, якая яшчэ раней за Сонца асвятляла Зямлю, паўплываўшы на яе жыццядзейным чынам. У гэтым кантэксце старажытны наш сімвал расшыфроўваецца наступным чынам: «Нябесны коннік, які разганяе цемру, засуху, голад і смерць. Узнаўляе мір, раўнавагу, традыцыі, вытокі і крыніцы. Ахоўвае Нябесны закон, законы Роду, ягоныя карані. Рыцар, які знішчае ману і хітрасць». Вось колькі чаго выдатнага. Тым не менш варта перш-наперш мець на ўвазе сучаснае значэнне выявы вершніка з мячом — як сімвал таго, што на Беларусі былі і будуць адважныя мужчыны, якія заўсёды гатовы са зброяй абараніць сваю Маці-Радзіму.

У радку пра Сцяг сп.В.Голуба не задавальняе будучы час дзеяслова — «уздымем», на ягоную думку, — значыць «калі-небудзь».

У выніку ўсіх канструктыўных заўваг шаноўнага чытача першы куплет мы ў рэдакцыі адрэдагавалі наступным чынам:

*Мы, беларусы, — вольныя людзі!*
*Наша «Пагоня» імчыць у вяках.*
*Рэе высока сімвал Радзімы —*
*Бела-чырвона-белы наш Сцяг.*

А разам мы сапраўды абаронім сваю годнасць і не загінем, браты-беларусы!

**Эрнэст ЯЛУГІН.**

# Будзьце на пульсе беларускага культурнага жыцця

Хачу адказаць на некаторыя пытанні і зрабіць прапановы наконт аблічча «Нашага слова». Я, Ігар Гатальскі, чытаю газету з першага нумара. Жыву ў Менску, маю 29 гадоў, вышэйшую адукацыю, раней працаваў інжынерам у Фізіка-тэхнічным інстытуце АНБ, цяпер працую ў Беларускім таварыстве інвалідаў.

У самым пачатку існавання «Наша слова» мела выразны асветніцкі характар. Потым яно зрабілася больш карпаратыўным, выразнікам жыцця і інтарэсаў менавіта ТБМ. За апошні год газета стала больш універсальнай, у ёй змяшчаецца багата матэрыялаў не толькі па беларускай мове, але і па замежных мовах, па сусветнай літаратуры. Радуюць і актуальныя інтэрв'ю на сучасныя палітычныя і культурныя тэмы Беларусі.

Лічу цікавымі рубрыкамі «Меркаванні», «Шэдэўры літаратуры» па-беларуску, «Культура мовы», «Поступ тыдня». Вельмі добрыя былі паведамленні ў № 15 аб падзеях культурнага жыцця ў беларускай глыбінцы і па-за межамі Беларусі. Хочацца, каб актывісты ТБМ на месцах паведамлялі аб сваіх мерапрыемствах у газету, і тады «Наша слова» стане пульсам беларускага культурнага жыцця. Мяне гэта асабліва цікавіць у аспекце краязнаўчага вывучэння Беларусі дзеля вызначэння як вядомых, так і новых помнікаў культуры, гісторыі, прыроды Беларусі і ўключэння іх у турыстычныя маршруты.

А цяпер пра тое, што хацелася б прачытаць у «Нашым слове». Галоўнай задачай газеты мусіць і надалей быць прапаганда і пашырэнне беларушчыны, асабліва сярод моладзі. У параўнанні з суседзямі наша нацыянальная ідэя знаходзіцца ў пачатку свайго развіцця. Толькі цяпер мы пачынаем разумець, што ёсць Беларусь і кім ёсць мы, будучы ў гэтым свеце беларусамі. Таму сённяшнія цяжкія часіны — гэта і шчаслівыя часіны для тых, хто шчыруе на ніве далейшай распрацоўкі і ўдасканаленні беларускай ідэі.

Апроч таго асветніцкага накірунку вельмі важна даваць матэрыял аб тым, як беларуская ідэя ўспрымаецца нашым народам. Патрэбна рубрыка «Што значыць для мяне Беларусь» або «Што значыць для мяне быць беларусам». Няхай тут будуць адказы не толькі беларускай інтэлігенцыі, але і школьнікаў, студэнтаў і ўвогуле нашай моладзі. Пастаноўка якраз гэтых пытанняў перад кожным беларусам надзвычай актуальная сёння, і пошукі адказаў на іх непазбежна паспрыяюць згуртаванасці беларусаў. Уся наша ранейшая бяда палягала ў тым, што існавала (ды й цяпер існуе) некалькі ідэалаў Беларусі, і незалежніцкая ідэя цеплілася ў вузенькім коле сваіх прыхільнікаў сярод мора беларусаў, узгадаваных у духу «заходнерусизма». Галоўная стратэгічная задача — перамагчы «западнорусизм» духам незалежнай свабоднай Беларусі і сілай гістарычнай праўды.

Хачу таксама бачыць і надалей на старонках «Нашага слова» раскрыццё тэмы «Беларуская мова і літаратура сярод еўрапейскіх моў і літаратур» (ды, мабыць, не толькі еўрапейскіх). Гэта няблага робіцца і цяпер. Лічу, што не патрэбна публікацыя з нумара ў нумар «Слоўніка сінонімаў» і іншых энцыклапедычных матэрыялаў. Газета сёння цікавая і сваімі матэрыяламі «для адпачынку» — гумарам, пародыямі.

Зычу рэдакцыі поспехаў у працы!

**І.В.ГАТАЛЬСКІ.**
г.Менск.

*Беларускае замежжа*

# Беларускі «Прамень» у Латвіі

Напрыканцы мінулага года ў беларусаў Латвіі з'явілася свая газета са светлай назвай «Прамень». З выпадку выхаду першага нумара газеты ў яе рэдакцыю паступілі віншаванні са сталіцы Беларусі ад Управы згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», ад сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны і рэдакцыі газеты «Наша слова», ад супрацоўнікаў газеты «Голас Радзімы», ад старшыні рады таварыства «Беларусь—Латвія» Сяргея Панізьніка. Гэтымі віншаваннямі адкрываецца газета. Тут жа змешчаны зварот стваральнікаў газеты «Прамень» «Да беларусаў Латвіі».

Пад загалоўкам «Не весела было ў час сустрэчы» Алесь Карповіч распавядае пра візіт у Рыгу першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Вячаслава Кузняцова. Валянціна Піскунова ў сваім артыкуле ўзнімае пытанне аб перспектывах працы прадпрымальнікаў Латвіі ў 1995 годзе, а Лявон Шакавец прапануе чытачам нататку «Беларусь усім багата: ёсць для поля, ёсць для хаты...». Акрамя ўсяго, «Прамень» асвятляе на сваіх старонках мінулагоднія восеньскія дні, калі ў Беларусі адзначаліся Дні беларускага пісьменства і друку. Шмат у газеце і іншай інфармацыі з культурнага і грамадскага жыцця беларусаў Латвіі.

**В.Ш.**

# Конкурс песні

Пошук маладых талентаў — такая мэта новага цыкла перадач «Зорная ростань» Беларускага тэлебачання. Здымкі першай з іх адбыліся ў Бярэсці. У канцэртах-конкурсах фестывалю ўзялі ўдзел выканаўцы эстраднай песні з Менска, Менскай вобласці і Бярэсця. Пакуль што гэта маладыя, мала каму вядомыя спевакі і калектывы. Удзел у перадачы рэспубліканскага тэлебачання — першая ступенька да папулярнасці.

**На здымку:** Адкрыццё конкурсу-фестывалю «Зорная ростань».
**Фота Рамана КАБЯКА, Белінфарм.**




*Творчасць нашых чытачоў*

## Як хлеба акраец

*Мне гэтая зямля за ўсё даражэйшая,*
*І я не хачу, і не ўмею яе пакідаці:*
*Тут Нёман і Шчара найпрыгажэйшыя,*
*Яны мне як маці малому дзіцяці.*

*Ў вакне маім вербы і жытняе поле —*
*Часцінка маёй дарагой Беларусі:*
*Мой смутак і радасць і хмурная доля,*
*І хлеба акраец на белым абрусе.*

*Тут шэптам даверлівым, ціхім, лісцёвым*
*У мудрай задуме гамоняць таполі,*
*І тут мая мілая родная мова,*
*Якая, як сонца, не згасне ніколі.*

**Кастусь ТУРКО.**
г.Ляхавічы.

## Пачутае ад аўцюкоўцаў

* * *

Рэйсавы самалёт Мінск—Кіеў ляціць над Аўцюкамі. Сцюардэса падбягае да лётчыка, просіць:

— Адчыніце люк, двое аўцюкоўцаў хочуць выйсці.

— Э-э, не! Учора аднаго тут выпусціў, а трое ўскочылі, — адказаў лётчык.

* * *

Аднойчы аўцюкоўцы зазлавалі на сваіх суседзяў з Гліннай Слабады. Зрабілі гармату і пальнулі ў той бок. Як бабахнула — усё навокал развярнула. І саматробную гармату таксама.

Наводчык Мікіта, што страляў, ачухаўся трохі, атрос з сябе зямлю дый кажа перапалоханай жонцы:

— А што, калінка, у Гліннай Слабадзе робіцца, калі тут так жахнула!..

* * *

Аўцюковец за мяжу з'ездзіў, дык яго ў КДБ дапытвалі:

— Ты нядаўна быў за мяжой, пісталет газавы прывёз?

— Не, — кажа, — не, каласок, брахня. На пісталет трэба ж багата грошыкаў. А ў мяне іх ня було... А ў той Турцыі за так толькі халеру купіць можна.

— Кажуць, ты з вайны кулямёт хаваеш.

— Што ты, каласок, яго ж трэба салам змазваць, анучамі абкручваць. А ў мяне ні сала, ні анучаў...

— Гармату, кажуць, маеш трафейную.

— Ты што, каласок, на яе трэба багата салідолу, каб не заржавела. Думай, як сена накасіць, каб у стозе схаваць. Не, не, няма...

— Скажаш і танка няма?

— Не, няма, каласок. Для яго трэба ў агародзе яму капаць, зямлёй прыкрываць...

— Дык мо скажаш, што й самалёта ў цябе з вайны не засталося?

— А вось ета, каласок, чыстая брахня!

## Пачутае

Мікола КАПЫЛОВІЧ

### Браты

— Не ведаю, за што мне такі гонар быў ад братоў. Сама худая, дробненькая, усё жыццё «маляўкаю» называлі, а браты былі ў мяне — галавою неба даставалі. Усе трое мяне шанавалі, шкадавалі. І Максім, і Павел, і Рыгор. Рыгор строгі быў, усе ў вёсцы яго баяліся. Прыйдзеш, бывала, аднекуль дамоў позна, дык так строга паглядзіць, хоць пад лаву хавайся. Змаладу я засталася ўдавою. Чалавек мой на вайне загінуў. Дык браты рабілі і за яго на маіх сотках. Я ніколі ні арала, ні сеяла. Усё браты рабілі. А на пакос — заўсёды разам. Спярша мне стажок пастаяць, а потым — сабе. Не, не, такіх братоў цяпер няма. Бывала, кажу ім: за што мне такое шчасце? Чым вам аддзякую? Смяюцца: «Толькі жыві, Валька. Больш ад цябе нічога не трэба».

Вось і жыву. Іх перажыла. Як дубы зваліліся, а я, як тая былінка пры дарозе, ад ветру гнуся ды хістаюся, а ўсё яшчэ някак кеўляю.

### І грошы цэлыя засталіся

— Пайшла была мая жонка на кірмаш. З далярамі. Каб сабе і дачцы купіць зімовыя боцікі. Хадзіла, хадзіла там, таўкалася сярод людзей і бачыць: бабуля прадае боцікі. Якраз такія, якія думала жонка купіць: новенькія, прыгожыя, з футрам знутры. «Патрымайце, цётка, — кажа яна той бабульцы, — маю сумку, а я вашы боцікі памераю. Толькі добра трымайце, бо тут — даляры». І пачала прымерваць на нагу правы боцік. Памерала, разагнулася — няма бабулі. Уцякла з сумачкаю. Нават боцікі пакінула. Прынесла іх жонка дамоў і плача: сумачку з валютай укралі. «Твая сумачка з далярамі вунь на канапе ляжыць, — кажу ёй, — а на кірмаш ты ўзяла другую. Дачкі». Вось як выйшла: і боцікі набыла, і грошы цэлыя засталіся.

## Афарызмы

- Кепскі мужчына спіць адзін.
- Быў бы хлеб, нож знойдзецца.
- Добрую навіну здалёку пачуеш.
- Ня так добра з грашыма, як кепска бяз іх.
- Каб Бог жыў на зямлі, то людзі павыбівалі б яму шыбы.
- Калі Бог— бацька, то шчасце — айчым.
- Ад шчасця да бяды ўсяго адзін крок, а ад бяды да шчасця вельмі далёка.
- Ня мыш злодзей, а нара!
- Чужыя клопаты не перашкаджаюць спаць.
- Лекары і грабары ня зычуць сабе «добрага году».
- Капелюшы заўсёды добрыя, толькі галовы часта замалыя.
- Хто кладзецца спаць з сабакамі, той устае з блыхамі.
- Бітаму сабаку не паказвай кія.
- Калі ня можаш дапамагчы прыяцелю грашыма, то дапамажы уздыхам.
- Воз адпачывае ўзімку, сані — улетку, конь жа не адпачвае ніколі.
- Калі б словы былі мостам, то я лякаўся б па ім хадзіць.
- Гадзіннік, які ня йдзе, лепшы за той, што ідзе кепска.
- Калі пра цябе сказалі, што ты труп, то будзеш пахаваны.
- Калі будзеш занадта салодкі — праглынуць цябе, а калі будзеш занадта горкі — выплюнуць.

**З польскай пераклаў**
**Алег ДЫШЛЕВІЧ.**

## Пародыі

Міхась СКОБЛА

### Эпітафія сваяку

***І я з Купалавай радні,***
***І гэтым дужа ганаруся.***
***Заўжды ў паэзіі сваёй***
***Я дзядзьку Янку адчуваю.***
**Леў Мароз.**

Як селянін на працадні,
Працую, дбайна і рупліва.
А я — з Купалавай радні,
Ён і мяне вадзіў на піва!
Ну хто калі глядзеўся лепш,
Таленавіцей і бясспрэчней:
Я і Купала пішам верш.
Я і Купаліха з ячняй!?
Адзін пісаць паэт не мог,
А калі трэба да зарэзу,
Казаў: — А мо давай удвох
Дамучым, Лёвачка, «Арэсу»...
І я не рыпаўся адзін.
Куды лаўчэй, калі дуэтам
Пад вечар трохі пасядзім...
Так я адчуў сябе паэтам.
Адзін на двох быў рыфмаў воз
І з фарбамі адна палітра.
А дзе Купала, дзе Мароз? —
Не разабрацца без паўлітра!
Усе жагналіся ў сяле,
Калі (ого, былі выпадкі!)
Я і Купала ў «Шаўрале»
Да цешчы мчалі на аладкі!
Лысела з часам галава,
Пусцела з вершамі дзялянка,
І па-сваяцку дзядзька Янка
Мне прысвяціў «Магілу льва».

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 618

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 6850 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 20.03.1995 г. у 15 гадзін.